


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

№ 25(35) • 7—13 ЖНІЎНЯ 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)



## Поступ тыдня

**АДБЫЛАСЯ** нарада прадстаўнікоў знешнеэканамічных ведамстваў 15 рэспублік нашай краіны — новая форма абмеркавання агульных праблем. І форма іх вырашэння прапанавана таксама новая: зварот да прэм'ер-міністра краіны. У ім выказана нязгода з дзеяннямі асобных падраздзяленняў саюзнага ўрада, якія выдаюць загады, не ўзгадняючы іх, як і ў добры стары час, з рэспублікамі. А яшчэ на нарадзе ішла гаворка пра раздзел залатога і алмазнага запасу краіны, увядзенне ўнутранай канвертуемасці рубля, размеркаванне паміж рэспублікамі знешняй запазычанасці СССР і інш. Гаворка, што ні кажыце, найсур'ёзнейшая. Пачакаем цяпер, які будзе адказ прэм'ера...

**КАЛЯ** сямідзесяці і болей працэнтаў злачынстваў не раскрыты ў Гомельскай і Віцебскай абласцях, а таксама ў горадзе Мінску. Тады як агульная колькасць гэтых злачынстваў па рэспубліцы ўвесь час павялічваецца. Такія лічбы і факты былі прыведзены на расшыраным пасяджэнні калегіі Пракуратуры БССР, у якім прыняў удзел і Генеральны пракурор краіны. У чым прычына правалаў? Некаторыя гаварылі: вінавата неразбярыха ў заканадаўстве. А ўспомнім вынікі расследавання ў С130, што правяла нядаўна апазіцыя БНФ у рэспубліканскім парламенце. Звернемся да канкрэтных прыкладаў: кожная пятая скарга на дзеянні міліцыі пры затрыманні людзей прызнана правільнай. І самае галоўнае — сёлета ў ведамстве звольнілася 50 найбольш вопытных прафесіяналаў. Ці заканадаўства тут вінавата?..

**ПАШЫРАЮЦЦА** прамыя сувязі Беларусі з іншымі рэспублікамі. Ёсць дагаворы аб супрацоўніцтве з Расіяй, Казахстанам, адкрыты свае прадстаўніцтвы ва Узбекістане, Кыргызстане. І вось яшчэ адно ўрачыстае падпісанне дагавора — на гэты раз з Таджыкістанам. Рэспублікі дамовіліся «аб шырокіх узаемапастаўках на 1992 год на ўзроўні не ніжэй за 1990 год». Высокая мяжа — пазалеташнія пастаўкі... Міжволі напрошваецца пытанне: чым жа лепшыя сёлетнія прамыя сувязі за тыя, што рабіліся праз Цэнтр?

**У КАТОРЫ** раз па нашых гарадах і весях папаўзлі чуткі: у жніўні здымаюцца з абароту грашовыя купюры вартасцю 50 і 100 рублёў. Каля ашчадных банкаў выстраіліся чэргі. На гэты раз чуткі каштавалі паўмільярда рублёў. Але цяпер, калі страсці заціхлі, ці скажуць людзі з палёгкай, што мінула апошняя хваля чутак на балючую тэму? Ці не таму яны так часта паўтараюцца, што вельмі блізкія ад нашай шэрай рэальнасці?..

# ЖУРБОТНЫ ЮБІЛЕЙ
## ва ўрочышчы Цагельня, ля Чэрвеня









Фота Уладзіміра САПАГОВА.

У ноч з 26 на 27 чэрвеня 1941 года ва ўрочышчы Цагельня, непадалёк ад Чэрвеня (былы Ігумен), савецкімі энкавэдыстамі была расстраляна калона вязняў (пераважна палітычных): літоўцы, палякі, рускія, але большасць — беларусы. Сёлета, 20 ліпеня, на месцы трагедыі адбыўся мітынг-жальбіны, які арганізавалі таварыства «Мартыралог Беларусі» і Саюз былых палітзняволеных Літвы. Пакланіцца ахвярам сышліся і з'ехаліся сотні людзей.

Былі асвечаны крыж і літоўская капліца, на магілы ахвяр ускладзены кветкі...

## Рабочыя памятаюць свайго сябра

У Мінскім вытворчым аб'яднанні імя У. І. Леніна рабочыя сабралі грошы і перадалі іх Валерыю Сядову, які з турмы, куды яго кінулі за палітычныя перакананні, трапіў у бальніцу. У калектыве 121 падраздзялення завода Сядоў рабіў у сярэдзіне 80-х гадоў. Рабочыя памятаюць Валерыя — ягоную таварыскасць, уменне працаваць. Помняць рабочыя чатырох сяброў Валерыя, над якімі таксама рыхтуецца расправа за іхнія палітычныя перакананні.

Ц. ЦІШУК,
рабочы МВА
імя У. І. Леніна.

# *Прапанова падтрымана: ствараем прэміяльны фонд «Нашага слова»*

Раней мы паведамлялі, што ў рэдакцыю паступаюць грашовыя пераводы ад чытачоў з мэтай матэрыяльна падтрымаць газету, якая мае пакуль вельмі сціплы ганарарны фонд, але імкнецца залучыць на свае старонкі кваліфікаваных аўтараў. «Нашаму слову» звычайна не адмаўляюць у супрацоўніцтве, аднак мы і самі разумеем, што злоўжываць заказамі практычна на грамадскіх пачатках не след. Таму і ўзнікла ідэя, якую падказалі чытачы: стварыць прэміяльны фонд з чытацкіх ахвяраванняў, каб узнагародзіць аўтараў найбольш значных публікацый года (а такіх вырашана вызначыць 12 — па колькасці месяцаў).

Ахвяраванні ў прэміяльны фонд рэдакцыі можна рабіць праз банкаўскія рахункі ТБМ, пазначаючы ў такім выпадку: «Для «Нашага слова».

Просім чытачоў выказаць свае меркаванні, якія з публікацый газеты вартыя асаблівай ухвалы. Пажадана, шаноўныя чытачы, каб вы ўказалі сваё месца жыхарства і прафесію (род заняткаў).

Просім і нашых замежных чытачоў дасылаць водгукі на прачытаныя ў «Нашым слове» матэрыялы і дапамагчы тым самым вылучыць лаўрэатаў. Ваша думка будзе ўлічана журы і абвешчана ў выніковым паведамленні аб гадавым чытацкім рэйтынгу публікацый газеты.

## Шаноўная рэдакцыя!

У свой час я з цікавасцю прачытала матэрыялы да «трасянка-беларускага» слоўніка, якія сабраў С. Дубавец (№ 2, 1990 г.). Не раз звярталася да рубрык «Культура мовы», «Слоўцы, якія паслужаць», каб праверыць сябе. Упэўнена, што «Наша слова» можа (і павінна) не толькі дапамагаць сваім чытачам авалодваць мовай, але і больш актыўна наступаць на «трасянку», на калькаванне з рускай мовы. Два гады таму, аб'яднаўшы аднадумцаў, мы стварылі пры музеі гістарычна-культурную суполку «Бацькаўшчына». Яшчэ тады, адстойваючы менавіта такое напісанне, я звярнула ўвагу на тое, што паўсюдна ўжываюць форму «гісторыка». Я не філолаг, але мне здаецца, што гэта яскравы прыклад калькавання з рускай мовы. І хоць у слоўніках (на якіх, праўда, шмат слушных нараканняў) чытаем: «гістарычна-літаратурны», «гістарычна-філалагічны» і г. д. («Русско-белорусский словарь», 1982, «Беларуска-рускі слоўнік», 1988 г.), большасць выданняў аддае перавагу звыкламу «гісторыка-». У выніку чатаем на старонках газет «Закон аб культуры ў Беларускай ССР», адзін з раздзелаў якога называецца: «Гісторыка-культурная спадчына». Вось вам і культура, вось вам і спадчына. Няўжо так звykліся? Не чуем, што гэта не па-беларуску?

Магчыма, я памыляюся. Але, улічваючы, што сёння гэтае слова штодня мільгаціць на старонках газет і часопісаў, хацелася б засяродзіць на ім увагу і выслухаць меркаванне беларускіх мовазнаўцаў. Спадзяюся, што «Наша слова» мае такую магчымасць.

Ларыса БОЙКА,
навуковы супрацоўнік
Салігорскага
краязнаўчага музея.

## Патрэбны афіцыйныя захады

Маюць рацыю людзі, якія заклікаюць да перагляду некаторых пытанняў сучаснай літаратурнай мовы. І надта патрэбна сёння нейкая афіцыйная ўстанова, якая займалася б справамі чысціні мовы. Тады такія аб'явы, як «Ноч доўгіх *нажэй*» (кінатэатр «Бярэсце»), «*Пакупайце* гарачы хлеб» (з рэкламы ў хлебным магазіне) і г. д., не маглі б з'явіцца. Такіх «блох» можна налавіць поўныя прыгаршчы, але на іх амаль ніхто чамусьці не звяртае ўвагі. Маўчаць аб рэформах, аб увядзенні ва ўжытак слоў з нашай спадчыны і навукоўцы-філолагі. Таму і поўзаюць на старонках беларускага другу «спонсары», не маюць «правоў грамадзянства» «варштат», «гута», «бровар» (станок, фабрыка, завод) і мноства іншых слоў. На мой погляд, калі мы ўзяліся за адраджэнне мовы, культуры, то патрэбны і афіцыйныя захады ў гэтай справе.

Р. ЛОЙКА,
ветэран працы
з Брэста.

## Прыклад савецкага наватвора

Апошнім часам вельмі часта сустракаю ў газетах такое слоўца, як «бягучы» (бягучы год, месяц і г. д.). Слова гэтае — тыповы прыклад «наватвора». Яно прыйшло да нас з рускай мовы: канцылярскі штамп «в текущем году» быў перакладзены на беларускую мову. Але ў рускай мове гэты выраз гучыць натуральна, у яго ёсць свае карані — «с течением времени».

У беларускай жа мове слова «бягучы» аказалася прыдатным толькі для афіцыйнага стылю, а не звычайнай чалавечай размовы. Скажы: «У гэтым годзе на паліцах крамаў з'явіцца ўдвая болей тавараў, чым летась». І неўзабаве пачуем пытанні людзей: «А дзе ж яно — абяцанае?» А можна інакш: «У бягучым годзе намячаецца павелічэнне выпуску тавараў шырокага асартыменту». Тут ужо ўсё зразумела: зноў гэты бягучы год «прабяжыць» міма нас, а тых тавараў мы так і не пабачым.

Трэба пазбаўляцца канцылярызмаў у мове. Бо дачакаемся, што бацька будзе казаць маленькаму сыну: «Дарагі і глыбокапаважаны сын! На бягучым тыдні мы нанясём візіт у краму з мэтаю набыцця адной цацачнай машыны дзеля больш поўнага задавальнення тваіх духоўных і матэрыяльных патрэб».

Віктар ПАЎЛЕНКА,
студэнт эканамічнага
факультэта Гомельскага
універсітэта.

## З чыйго поля ягада?

*Спартыўныя і палітычныя аглядальнікі і каментатары, а таксама дыктары беларускага радыё і тэлебачання вельмі часта ўжываюць выслоўе «ў рэшце рэшт». Я ніколі не чуў такога ад ніводнага беларуса, які гаворыць па-беларуску, бо ў такім выпадку ён заўсёды кажа «нарэшце» або «і нарэшце». На маю думку, гэта з таго ж поля ягада, што і «у цякучым годзе», «ажаніцца на ёй», «вывучыцца на шафёра», «пайсці за хлебам» і іншыя. Добра было б прачытаць на старонках «Нашага слова», як ставяцца да гэтага мовазнаўцы.*

Іван ГУШЧЫН,
г. Брэст.

## Дапамогуць літоўцы?

Аднаго дня я заўважыў у Лідзе літоўскі аўтобус Вільнюс—Баранавічы, што стаяў на вакзале. На шыльдзе назвы гарадоў былі напісаныя на літоўскай і беларускай мовах. У Літве разумеюць, што трэба назвы пісаць на мове таго народа, куды кіруе аўтобус. У нас жа часцяком убачыш аўтобусы, рэкламу, надпісы па-руску. Можа, нам запрасіць у кіраўніцтва літоўцаў?

Вадзім ЗУБКО,
г. Ліда.

## Я за... перабудову

Зараз шмат крытыкуюць перабудову, маўляў, праз яе краіна развальваецца. А я лічу, што гэта галоўнае дасягненне перабудовы. Бо сам ход гісторыі патрабаваў распаду СССР — апошняй у свеце каланіяльнай імперыі. Нам трэба вярнуцца на стартавую дарогу цывілізацыі, і, калі ў гэтым галоўны сэнс перабудовы, я абедзвюма рукамі за такую палітыку.

Юрась ДРАЗДОЎ,
студэнт БДУ.

## Выпадковасць?

*У Навагрудку дырэктарам школы № 4 працуе Галіна Тамко. Яна арганізавала ў горадзе першы беларускамоўны клас, а сёлета аб'явіла, што ўсе сем (!) першых класаў будуць беларускамоўныя. Я як настаўнік з саракачатырохгадовым стажам разумею, што з гэтага павінна пачынацца адраджэнне. Такія людзі, як Тамко, цяпер вельмі патрэбныя. Але вось у чым парадокс: гэтага чалавека не выбралі нават дэлегатам на з'езд ТБМ. Выпадковасць?*

Ул. УРБАНОВІЧ,
в. Валеўка
Навагрудскага раёна.



# ЧЫЕ ТЭАТРЫ НА БЕЛАРУСІ?

*З дзевятнаццаці тэатраў Беларусі большасць працуе на рускай мове. Узнікае пытанне: ці могуць рускія тэатры лічыцца нашымі дзяржаўнымі толькі таму, што яны існуюць на тэрыторыі рэспублікі і атрымліваюць датацыі ад яе ўрада?*

На нашу думку — не могуць, бо выключаны са сферы беларускай культуры і не служаць справе нацыянальнага Адраджэння. Яны не займаюцца прапагандай жывога беларускага слова, а іх рэпертуар складаюць у асноўным творы рускай і зарубежнай класікі ды п'есы на тэмы жыцця «простага савецкага чалавека», выхаванага на прынцыпах нашага дамарослага «інтэрнацыяналізму».

Будзем, аднак, спадзявацца, што безнадзейная дагэтуль сітуацыя ў становішчы беларускага нацыянальнага тэатра ў хуткім часе палепшыцца. У сувязі з наданнем роднай мове статуса дзяржаўнай некаторыя органы друку і творчыя калектывы пачалі працаваць на дзвюх мовах — беларускай і рускай. асноўным гэта характэрна для новых выданняў, новых тэатраў, што пачалі ўзнікаць як грыбы пасля дажджу. Рэальнае двухмоўе стала пераходнай формай ад стану моўнага заняпаду нацыянальнай культуры да яе паступовага адраджэння, уваскрашэння.

Вось і новы тэатр сатыры і гумару «Хрыстафор», створаны ў 1988 годзе, «загаварыў» на дзвюх мовах. Я сустрэўся з артыстам гэтага тэатра Сяргеем Аляксандравым і задаў яму некалькі пытанняў.

— Сяргей, калі не сакрэт, раскажыце, як выбіліся ў людзі, — вы і вашы аднакурснікі? Хто застаўся і цяпер неабыякавым да беларушчыны?

— Яшчэ ў школе я вырашыў стаць акцёрам і працаваць, папершае, на беларускай мове, падругое, у тэатры сатыры і, па-трэцяе, для дзяцей. Таму, нават, паступіўшы ў Дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва (ГИТИС) у Маскве і засумаваўшы, я вярнуўся ў Мінск і тым жа летам паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.

Тады ў тэатральны інстытут не прымалі такіх маларослых студэнтаў, як я. Але калі члены прыёмнай камісіі, тагачасны галоўны рэжысёр тэатра імя Якуба Коласа, а таксама адзін з выкладчыкаў інстытута, заслужаны дзеяч мастацтваў, памераліся са мной — усе прысутныя зарагаталі: мы былі аднаго росту. І мяне прынялі. Пасля інстытута працаваў у Акадэмічным тэатры імя Я. Коласа, Беларускім тэатры юнага гледача, і ўжо трэці год — у «Хрыстафоры».

У людзі «выбіліся» амаль усе мае аднакурснікі. Аднак найбольшага поспеху дабіліся Сяргей Жуbecause, Генадзь Шкуратаў, а п'есы Аляксея Дударава ставяцца па ўсім свеце.Глядзіш, дзякуючы Дудараву і Афрыка загаворыць па-беларуску.

— **Ці стане тэатр «Хрыстафор» Хрыстафорам, які адкрые для гледачоў рэспублікі беларускамоўны мацярык сатыры і гумару?**

— Стараемся. Гады са два, як наша сатырычная праграма «Хто — Каго?» часткова ідзе на беларускай мове. Цяпер рыхтуем новую праграму «Ад Чыжоўкі да Камароўкі», якая будзе цалкам беларускамоўнай.

— **Вашы адносіны да Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы? Ваш тэатр думае жыць па гэтым законе ці ён законаў не прызнае?**

— Мы не анархісты. І мы прызнаём законы нашай рэспублікі. Закон аб мовах, калі б быў прыняты гадоў дваццаць назад, быў бы даўно ажыццёўлены, а цяпер, баюся, яго могуць, як і нарадзілі, так і пахаваць. І тое, што ў метро прыпынкі аб'яўляюць на беларускай мове, яшчэ не азначае, што беларуская мова адраджаецца.

— **Ваш «хрыстафораўскі» погляд на беларускія тэатры: як дзяржаўныя, так і гасразліковыя.**

— Мяне хвалюе, што пад маркай беларускамоўнага тэатра ўзнікаюць тэатры нізкага прафесійнага ўзроўню. Наш глядач вельмі даверлівы, і калі яму нешта паказваюць, то ён верыць, што яму паказваюць сапраўднае мастацтва. Але ўжо гады два яго часцей за ўсё проста падманваюць халтурным мастацтвам. Гаворачы гэта, я не маю на ўвазе Дзяржаўныя тэатры Я. Купалы і Я. Коласа. На іх лепшыя традыцыі трэба ўсім нашым тэатрам раўняцца. І іх у першую чаргу павінна падтрымліваць дзяржава, бо яны ўвесь час свайго існавання працавалі на захаванне беларускай культуры. І вялікі грэх, калі не клапаціцца дзяржаве пра тэатр юнага гледача. Адраджэнне беларушчыны павінна пачынацца з нашых дзяцей.

— **Я чуў, што вы адзіны артыст у «Хрыстафоры», які свабодна валодае беларускай мовай?**

— Няпраўда. Гэта, відаць, ворагі «Хрыстафора» завялі вас у зман. Так, вядучы артыст нашага тэатра Яўген Крыжаноўскі дванаццаць гадоў працаваў у купалаўскім тэатры, і, пайшоўшы адтуль, ён не забыўся беларускай мовы. У купалаўскім тэатры працаваў і Юры Лясны. А Анатоль Кляшторны, Сяргей Кравец, Анатоль Длускі нарадзіліся наогул у вёсцы, і каму, як не ім, ведаць родную мову. Праўда, ёсць у нас і такі чалавек, які не ведае, на жаль, беларускай мовы, але ён з гонарам усім паведамляе, што па пашпарце ён беларус.

— **А як у вас у сям'і адносяцца да беларускай мовы?**

— Пачну з жонкі. Хачу, каб яна больш маўчала, чым гаварыла, на якой бы то ні было мове, але гэта не з маім шчасцем, — жартую, вядома. А калі сур'ёзна, то жонка з поўным разуменнем ставіцца да сённяшняй сітуацыі ў беларускай культуры... Нядаўна я даў дачцы, якой дванаццаць гадоў, кніжку Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха», зразумела, на беларускай мове, і калі яна прачытала, спытаўся: «Ну як?» І дачка адказала: «Як тры мушкецёры». А гэта ўжо неабыякавасць да роднай мовы. А наконт мяне — то я жыў тут, жыву і буду жыць, і без беларушчыны хутчэй памру, чым ад радыяцыі.

— **І апошняе пытанне: які ваш тэатр па духу? Ці служыць ён задачам нацыянальнага Адраджэння?**

— Беларускі. І павінен служыць, — адказаў Сяргей Аляксандраў і задумаўся.

Віктар ШНІП.

# Песня — мова — душа...

Поўнасцю згодны з тымі, хто выказвае думку: адраджэнне беларушчыны неабходна пачынаць не тое што змоладу — змалку. З групак у дзіцячых садках ды вучнёўскіх парт у школах. А не толькі з афіцыйна зацверджаных праграм.

У рэчышчы гэтых разважанняў мне ўспамінаецца вечарына ў Палацы культуры Мінскага тонкасуконнага аб'яднання, прысвечаная сямідзесятым угодкам народнага пісьменніка рэспублікі Івана Мележа.

Шмат цікавага ўбачыў я на той вечарыне. І цудоўную віктарыну сярод вучняў на лепшае веданне мележаўскіх раманаў, калі ў вострай барацьбе вучаніца сярэдняй школы № 113 Алёна Мікалаева ўзяла галоўны прыз, і «літаратурнае лато», дзе шчаслівчыкам уручала кнігі свайго дзеда ўнучка Івана Паўлавіча Маша. А потым пачаўся канцэрт гасцей вечарыны — школьнікаў з Беласточчыны, якіх разам з настаўнікамі прывёз у Мінск Ян Мордань — актывіст Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Дзеці выступалі на беларускай мове: спявалі, чыталі вершы, ігралі ў спектаклі. Але мікрафоны працавалі дрэнна — цэлыя фразы не даляталі да слыху гледачоў! І публіка пачала хвалявацца, а затым і пакідаць залу. Дарма мінскія настаўнікі даводзілі: так рабіць непрыгожа. Але, мусіць, трэба было сказаць іншае: спыніцеся, вы ж — беларусы...

«Польскія» беларусы мужна дайгралі да канца спектакль перад моцна парадзелай залай. Дарэчы, і пасля паміж сабой усе яны размаўлялі па-беларуску, хоць і з польскім акцэнтам.

Пачуццё нейкай разгубленасці не пакідала мяне, пакуль я не трапіў на іншы канцэрт — заключны ў фестывалі мастацкай самадзейнасці дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў рэспублікі, што меў назву «Мая Радзіма — Беларусь». Трэба было бачыць і чуць, як падлеткі і зусім маленькія дзеці выконваюць беларускія песні і танцы, дэкламуюць вершы, іграюць на народных інструментах. Прыемна здзіўляла, што дзеці між сабой размаўлялі па-беларуску: вясковыя — на прыгожай літаратурнай мове, мінчукі — на «трасянцы».

І я зрабіў выснову: беларускае слова ўвойдзе ў жыццё нашых дзяцей толькі тады, калі настаўнік да сваёй працы будзе адносіцца творча, з любоўю і павагай. А вось некалькі вытрымак з інтэрв'ю, узятага за кулісамі фестывалю.

**Соф'я Лукашонак, інспектар Міністэрства адукацыі БССР:**

— Сапраўды, становішча з вывучэннем беларускай мовы ў Мінску горшае, чым у абласцях. Гэта бачна і па гэтым фестывалі. Калі першае месца і галоўны прыз, дарэчы, устаноўлены Беларускім дзіцячым фондам, узялі калектывы Мінскай вобласці, а другое — Віцебскай, то Мінск быў прадстаўлены ўсяго некалькімі школамі-інтэрнатамі. Магу канстатаваць той факт, што ў перыферыйных дзіцячых дамах і школах-інтэрнатах беларусізацыя ідзе актыўна. Дарэчы, у гэтым дапамог і фестываль. Рыхтуючыся да яго, настаўнікі і дзеці ездзілі па вёсках, запісвалі словы і мелодыі песень, прасілі жыхароў паказаць, як у іхняй мясцовасці выконваюць той або іншы танец. Такім чынам, працэс падрыхтоўкі фестывальных нумароў дазволіў пазнаёміцца з жывой гутарковай беларускай мовай, замацаваць веданне літаратурнай мовы, а галоўнае — прасякнуцца беларускасцю.

**Аляксей Бязвуглы, вядучы інспектар Міністэрства культуры БССР:**

— Ніколі ад дзяцей не чуў такой прыгожай беларускай мовы. Адчуваецца, што яна не штучная для іх, а плён выхавання, высілкаў нашых настаўнікаў. Неабходна ўвесці стаўку педагога-культарганізатара ў штатны расклад дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў.

**Людміла Мікалаева, дырэктар Жодзінскай школы-інтэрната:**

— У школе і дарослыя, і дзеці да беларускай мовы ставяцца з павагаю. Педагогі стараюцца гаварыць па-беларуску не толькі на ўроках. Ну а тое, што мы прыйшлі ў фінал, заслуга нашых мастацкіх кіраўнікоў Раісы Бараноўскай і Наталлі Русакевіч.

* * *

Што ж, можа, сіроты хутчэй, чым спешчаныя забавамі ды празмернай увагай бацькоў дзеці, прыгорнуць і прыгрэюць нашу асірацелую мову...

Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,
сябра Мінскай гарадской
рады ТБМ імя Ф. Скарыны.

*Пісьменнік і мова*

***Якія толькі пачуцці ні захлынаюць нас сёння ў жыцці! Нянавісць, злосць, абурэнне і пагарда, адчай, разгубленасць і абыякавасць... І ўсе — з разбуральнай энергіяй.***

***І раптам такое шчымліва-пранізлівае, такое чыстае, людскае — журба: «Што з табою здарылася, дарагі мой і ласкавы, шчыры і працавіты народзе?..»***

***Такі адчайна-вялікасны боль: «Дык што гэта мы і праўда нацыя рабоў?!»***

***І такая святая надзея: «Не, няпраўда, яна ўсё ж недзе павінна быць, недзе павінна існаваць у прыродзе — у чыстым, нечапаным, незаплямленым выглядзе — наша самапавага і годнасць...»***

***Новую кнігу прозы Я. Сіпакова «Журба ў стылі рэтра» (Мінск, 1990), у якую ўвайшлі апавяданні, артыкулы, эсэ, нататкі, мініяцюры, успрымаеш не проста як мастацкі твор.***

***Гэта голас журбы, выспелены раскрыжаваным на ўсіх стагоддзях лёсам беларускага народа. Голас памяці аб славутых беларусах: Францішку Скарыне і Кірыле Тураўскім, Ефрасінні Полацкай і Кастусю Каліноўскім, Францішку Багушэвічу і Максіме Багдановічу, Янку Купале і Якубе Коласе, Уладзіміру Караткевічу...***

***І голас пакаяння перад Бацькаўшчынай пад чорнымі крыламі Чарнобыля: яе вымерлымі вёскамі і разбуранымі храмамі, знішчанымі рэкамі і лясамі, высахлымі садамі і атручанай зямлёй.***

***Перад знямелай душой народа — яго мовай.***
***Як боль нясе мастак у сэрцы яе лёс.***
***І як надзею...***

Любоў ЛАМЕКА.

СВАЯ, родная мова. Гэта мова маіх маці і бацькі, якую я разумею ад першага пачутага мною слова, гэта мова бабулі і дзядулі, якіх я ведаю, гэта мова маіх прадзедаў і прапрадзедаў, якіх я не ведаю, але заўсёды адчуваю за сабою.

А вось чужая, вывучаная мова — гэта толькі мая. Пад ёю няма ніякага падмурка, яна стаіць на голым месцы, не мае ні глыбіні, ні шырыні. Пісаць мастацкія творы на вывучанай мове цяжка, бо ў аўтара няма патрэбнага моўнага запасу і няма дзе шукаць глыбіннага, незашмальцаванага слова. У вывучанай мове няма самага галоўнага — гістарычнай памяці, таго жыццямоўнага карэння, якое дае магчымасць развівацца і пладанасіць.

* * *

Божа мой! Вярні майму народу гістарычную памяць, абудзі ў ім самапавагу. Памажы зразумець яму, што ён не цёмны, забіты і прыніжаны, а такі ж вольны і паважаны на зямлі, як і ўсе іншыя народы ў свеце!

* * *

Толькі праз родную мову чалавек можа стаць беларусам, бо ў ёй хімія і фізіка, гісторыя і батаніка, эканоміка і культура таго, што называецца нацыяй, народам.

І таму, як жа ёй, нашай мове, патрэбна дзяржаўная падтрымка і абарона!

*Ніна ЗАГОРСКАЯ*

## АСВЕТНІКІ ДОЛІ

Плыве зямля ў сусвеце — велькі дом.
Калыша Час
і прдасці, і беды
Перад апошнім праведным Судом
Пішу сцілом — не запаветнай крыўдай.
Пішу радкі ў «перабудоўчы» час,
Што самаўзвысіўся нібы над экс-застоем.
О, як умеем бэсціць і крычаць,
І распраўляцца з Дабрынёй, з Любоўю!...
Плыве планета. Розумы. Вякі...
Кірыл з Мяфодзіем, прыйдзіце, блаславіце!
Сярод Асветнікаў,
у іхняй слаўнай свіце
Нясу і я свае чарнавікі.
Рука мая, сусветнае заданне
Прымі
і праз унукаў перадай,
Праз эстафету дзён, як па радах, —
Наш боль і веру. Лёсы, як паданні...
Плыве зямля. Пластуе пакаленні
У курганы. Грамадствы. Светы. Эры...
Да неба ўзвысіць
ці паставіць на калені?!
Абы па праўдзе
Час усё адмераў,
Адмераў, выверыў і па заслугах даў, —
Тады б была планета наша вечнай.
Любая адступілася б бяда
Перад зямелькай нашай чалавечнай.
Плыве Зямля! Сусвет, люляй яе!
Не дай, каб верх
няпраўда
ўзяла!
Асветнікі! Зязюля зноў куе!
Вяснуйце з намі, каб вавек цвіла
Планета Болю, Радасці, Святла!

## ЗНОЎ У ЗАКОНЕ

Гатова свет увесь абняць!—
Зноў у Законе мова Мамы.
Вякі былыя Заўтра сняць,
Дзе загамоняць нават Храмы
Звычайнай, нашай Беларускай
Святою моваю бацькоў.
Сігнал ратунку к нам з вякоў
Дайшоў, і ажылі званы,
Ды за бязмоўе
аніхто віны
Не ўзяў (і не хацеў прымаць!)
За немату —
цалюткага народа!
Мы ж перад святам,
як бязродныя былі...
Нібы... уроды...
Вякі былыя Будучыню сняць?!
Не, развіднела, дзякуй Богу, на Зямлі,
І зразумеў Сусвет:
мы... з беларусаў
Родам!

* * *

У кожным слове — свая алітэрацыя. Больш таго: само слова — гэта ўжо і ёсць алітэрацыя.

Да прыкладу, «зачапіў» — гэткае слова з кручком, «сіняе» — у ім светамузыка, «звініць» — і праўда звініць, «бі, барабан» — чуеце, як яно барабаніць і грукоча! А «лапатуха» — ужо амаль вымаўляе тое, што гаворыць пад мянташкаю накляпаная нявопытнаю рукою каса.

* * *

Радуючыся, што ў нашай роднай беларускай мове ёсць такія цудоўныя словы, якія ўзнаўляюць стан смутку — журба, скруха, туга, маркота, горнасць, — часам чамусьці вельмі зашкадуеш, што ў нас няма і такога шчымлівага, неверагодна зажуранага слова, як рускае «печаль».

* * *

Зноў жа, не толькі слова, а і кожная літара мае свой твар, свой характар і быццам што жывое, само па сабе нават гаворыць: «ж» — гудзе, яно з крылцамі; «о» — гэта ўжо стогн, «у» — здзіўленне, «я» — задавастае, жывот наперад, «а» — кліча на дапамогу, «ф» — адхукваецца, яно аж шчокі надзьмула, «б» і «в» узрываюцца, нездарма ж іх столькі ў словах «бомба» і «выбух».

* * *

Мне вельмі цікава знаходзіць у карэктуры памылкі наборшчыкаў. Часам нават здаецца, што яны, захопленыя шматграннасцю, шматфарбнасцю, шматмернасцю, таямнічай неспазнанасцю слова, усё гэта робяць знарок.

Змяняецца ўсяго толькі адна літара, і тады з'яўляюцца вясёлыя, дасціпныя, жартаўлівыя словы-ўсмешкі, якія аж свецяцца ад гумару: «дапукчана» (дапушчана), «фырвоная» (чырвоная), «тановяцца» (становяцца), «шазмова» (размова), «азалацістыя» (залацістыя), «цісьменнік» (пісьменнік), «асваімі» (сваімі), «хмелькай» (жменькай). Часам праз усмешку праступае ўжо сапраўдная з'едлівасць, сатыра: «падбор гракоў» (іграко-футбалістаў), «урычэла» (крычэла — злосна), «ад глупы балельшчыкаў» (ад групы балельшчыкаў), «задрэннем» (здарэннем — дрэнным), «паяўляласая» (паяўлялася — ласая на штосьці), «дзюдзей» (людзей). А здараюцца і сур'ёзныя, як адкрыцці, словы: «купышкай» (пупышкай), «кісцем» (лісцем), «жаўвакі» (жаўлакі), «мастач« (мастак), «спінжак» (пінжак, тое, што на спіне), «варачая ежа» (гарачая ежа).

Канечне ж, тут мы нібыта маем справу з так званай народнай этымалогіяй, праз якую міжволі праступае прыхаваная выпадковая словаўтваральная стыхія, калі ў слове высвечваецца нешта такое, што пры здаровым і дужа лагічным поглядзе ніхто і ніколі не заўважыць. Яно паварочваецца да нас нібы знарок якойсьці невядомай, яшчэ нікім не адкрытай гранню, якая, можа быць, таксама сведчыць пра бязмежнасць звычайнага слова.

* * *

Мова. Яна сама, развіваючыся, пераступае праз тое, што не прыжылося ў ёй і што асталося толькі як адзнака нейкага гістарычнага перыяду, нейкага ўнутранага працэсу. Так беларуская мова сама адмовілася ад «люкання» і «лякання» — характэрнай адзнакі 20-х гадоў.

Сёння сёй-той спрабуе вярнуць гэты прынцып, гэты правапіс у сучасную беларускую мову: «глёбус», «плян», «маналёг», «клясы», «філялёгія» і г. д.

Як ненатуральна гучаць гэтыя словы ў сталай, стройнай, арганізаванай культурнай мове! Нібы нейкая пародыя на развітую мову ці, горш таго, як дзіцячае вымаўленне ў дарослага чалавека.

# Янка СІПАКОЎ: «ЖУРБА Ў СТЫЛІ РЭТРА»

* * *

Хіба можна бачыць, не гледзячы?
Хіба можна чуць, не слухаючы?
Хіба можна гаварыць, не адкрываючы рота?

А ўсё ж гэта спрабуюць рабіць тыя, хто добраахвотна і лёгка адмовіўся ад роднай мовы.

* * *

Гэта толькі маўклівыя, падатлівыя беларусы, абыякавыя да ўсяго свайго, маглі гэтак доўга цярпець такі абразлівы, ганебны, самімі сабою прыдуманы здзек — з усіх прадметаў, якія вывучаюцца ў сярэдняй школе, менавіта яны вызвалялі сваіх дзяцей «па жаданні бацькоў» толькі ад аднаго — ад роднай беларускай мовы.

* * *

Як можна лічыць сябе культурным чалавекам і не ведаць роднай мовы?

Як можна быць інтэлігентам і пагарджаць, а то і здзекавацца са сваёй роднай мовы?

Бо менавіта родная мова з'яўляецца найдакладнейшай адзінкай вымярэння інтэлігентнасці і культуры кожнага чалавека. Як ват для святла, грам для цяжару, кіламетр для адлегласці.

* * *

Лёс беларускай мовы.

Аб'яднацца з гэтымі, раз'яднацца з тымі. Узяцца за гэта, паспрабаваць тое. Адкрыць адну школу, адзін клас, а то і зусім паўкласа з беларускай мовай навучання — як для індзейскай якой-небудзь рэзервацыі.

Гавораць, гавораць, гавораць. І ўсё гэта няшчыра, і ўсё гэта без асабістай зацікаўленасці, загадзя ведаючы, што такі клопат не дасць ніякіх вынікаў, не стане ніколі поспехам. І нібыта ўжо зараз радуюцца чыноўнікі, што здабыткаў не чакаецца, потым можна будзе развесці рукамі — вы ж, маўляў, бачыце, мы хацелі, стараліся, але ж сам народ... Няма выйсця...

І так ужо хочацца падказаць такім гаварунам: «Ёсць, ёсць выйсце». Для гэтага трэба ўсяго толькі сапраўдная шчырасць і адно распараджэнне, скажам, па Міністэрстве асветы БССР: «Навучанне ў школах Беларусі вядзецца на беларускай мове». І тут жа, выдаўшы такое распараджэнне, трэба адразу ж прымаць другое — аб стварэнні рускіх, польскіх, украінскіх, літоўскіх, яўрэйскіх школ, — каб на тэрыторыі рэспублікі не была пакрыўджана ніводная іншая нацыянальнасць.

І гэта б стала ўзорам сапраўднага інтэрнацыяналізму і дружбы народаў.

* * *

Міністр духоўных, як кажуць французы, памкненняў загаварыў раптам на роднай мове. Ай-яй-яй, які ён малайчына! Загадчык аддзела міністэрства ў сваёй прамове ўжыў беларускае слова. Ай-яй-яй, які подзвіг, якое самаахвяраванне!

Даруйце, а на якой мове яны гаварылі да гэтага? І хіба можна ўвогуле займацца, да прыкладу, асветаю народа, не ведаючы яго мовы, а то і пагарджаючы ёю? Не, такое глупства, мабыць, магчыма толькі ў Беларусі — адзінай, унікальнай у гэтым плане зямлі ў свеце...

* * *

Мы здзіўляемся, што так адвучылі народ ад роднай мовы — забываемся, што зусім нядаўна яшчэ гаварыць па-беларуску было небяспечна: кожны, хто гаварыў па-беларуску, адразу ж імгненна залічваўся ў «нацдэмы» і «ворагі народа».

Зразумела, што вельмі многа «ворагаў народа» было таму менавіта сярод выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры.

Здаецца нават, што да вайны была знішчана амаль уся інтэлігенцыя, якая гаварыла па-беларуску.

* * *

Якой бы яшчэ прыгажэйшаю стала наша беларуская мова, калі б вярнуць ёй яе гістарычныя асаблівасці як вымаўлення, так і напісання. Вярнуць страчаную мяккасць: «сьненні», «песьня», «сьнег»; натуральнасць: «паллю», «Ілліч, «Вулляна»; мілагучнасць: «сыне», «Рамане», «голубе».

* * *

Як рашучым, валявым рашэннем, не параіўшыся з народам, былі пазачыняны ўсе беларускія школы, так гэтакім жа рашучым і валявым рашэннем, зноў не трывожачы народ, трэба іх і адчыніць.

* * *

Польскія паны і расійскія самадзержцы, каб знішчыць, растварыць беларускі народ між сабою, адбіралі ў яго мову — законамі забаранялі на ёй пісаць, чытаць і нават гаварыць.

Пагарджаючы самым святым для чалавека — моваю, яны думалі ўнізіць гэтым наш народ. Але нечакана для сябе — узвысілі яго.

Беларускі народ, у якога так злачынна адабралі друкаванае слова, адабралі газету і кнігу на роднай мове, стварыў выдатнейшы беларускі фальклор, які сваім багаццем і разнастайнасцю здзіўляе знаных даследчыкаў у свеце.

Дзівакі, няўжо яны не разумелі, што думаць жа на сваёй роднай мове народу не забароніш?!

* * *

Кажуць, сустракаючыся з маладымі беларускімі літаратарамі, адзін маскоўскі паэт спытаўся: «Навошта вы змагаецеся за сваю мову? У вас жа зямля заражоная».

І вось менавіта таму хацелася б адказаць паэту, што наша зямля атручаная і заражоная, нам, каб выжыць, і патрэбна родная мова!

*Часопісы ў ліпені — жніўні*

## «БЕЛАРУСКАЯ МОВА І ЛІТАРАТУРА Ў ШКОЛЕ»

Першы дзень новага навучальнага года пройдзе ў школах рэспублікі пад знакам Максіма Багдановіча. Настаўнікам жа, каб падрыхтавацца да гэтай важнай падзеі, трэба загадзя мець матэрыялы пра жыццё і творчасць паэта.

Часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе» друкуе іх ужо з самага пачатку гэтага года. І чарговы, ліпеньскі — жнівеньскі (здвоены) нумар выдання, таксама не выключэнне. Сярод артыкулаў пад традыцыйнай рубрыкай «У вянок Максіму» — сцэнарый літаратурнай гасцёўні для старэйшых класаў «Застанецца ён непаўторным», сцэнарый сустрэчы-гутаркі «Вечна юны, як наша зямля...». Змешчаны метадычны матэрыял «Твае напевы не заснулі», дыдактычны — «Светлы ж след вечна жывым...», філалагічны — «Бачу я, з прыродай зліўшыся душой» (пра міфалагічныя вобразы ў ранняй творчасці песняра).

Шырокаму колу чытачоў адрасаваны артыкулы «Дом на Мала-Георгіеўскай» — пра нядоўгі, але плённы мінскі перыяд жыцця паэта, «Радзімая зямля, прынікнуў я к табе» — аб Вільні і Ракуцёўшчыне ў лёсе Багдановіча. З цікавасцю чытаецца нарыс Вацлава Ластоўскага «Мае ўспаміны аб М. Багдановічу». У часопісе падаецца бібліяграфія мастацкіх твораў пра юбіляра, перадрукоўваецца артыкул самога Максіма Багдановіча «Аб веры нашых прашчураў», ідзе гаворка аб гісторыі выдання творчай спадчыны песняра.

З часоў нашага першага нацыянальнага Адраджэння, акрамя публікацыі Вацлава Ластоўскага, часопіс прыносіць яшчэ вершы паэта-святара Андрэя Зязюлі, мовазнаўцы Пятра Бузука — да сотых яго ўгодкаў друкуецца артыкул «Становішча беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў».

І калі ўжо доўжыць пералік літаратурных імёнаў, якім ўдзелена ўвага ў чарговым нумары часопіса, адзначым таксама артыкулы пра творчасць Цёткі (да 115-годдзя з дня нараджэння), Ядвігіна Ш., Юркі Гаўрука (сваімі ўспамінамі пра яго дзеліцца 80-гадовы юбіляр пісьменнік Павел Пруднікаў). Артыкулы «Малады дзядок», «Мае песні», тэксты вядомай песні «Зорачкі» ды некаторых іншых (з нотамі!) — даніна павагі паэту-песенніку Сяргею Новіку-Пяюну да яго 85-годдзя.

Раю чытачам нашага часопіса звярнуць увагу таксама на літаратурны партрэт Васіля Зуёнка — артыкул «Акрас не патрабуе», на ўсхваляваны роздум пра паслякастрычніцкую беларускую паэзію «З крыві і слёз кліч гэты...»

У часопісе змешчана арыгінальнае даследаванне пра ўзаемасувязі нямецкай і беларускай моў «Дзе я вочы... меў?..», погляд навукоўца на праблемы выкладання беларускай, рускай і замежнай літаратур у школе «Ці перасякуцца літаратурныя паралелі?». У іх — клопат пра тое, каб беларуская мова і літаратура пачувалі сябе роўнымі сярод роўных у сусветным філалагічным суполлі.

А як ідзе працэс вяртання роднай мовы і літаратуры ў беларускія школы, што для гэтага робяць Міністэрства асветы і органы народнай адукацыі рэспублікі — пра гэта ў інтэрв'ю «Хочам знайсці аднадумцаў» разважае першы намеснік міністра Людміла Сухнат.

І. ЖДАНОВІЧ,
адказны сакратар
рэдакцыі часопіса.




Фотарэпартажам аб красавіцкіх падзеях 1991 года ў Мінску адкрываецца трэці нумар часопіса «Полацак». Іх кароткае апісанне можна знайсці ў артыкуле Анатоля Яўхімовіча «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»

Анатоль Белы звяртае ўвагу чатачоў на працэс фарміравання нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. Пра падзеі, якія адбыліся ў гісторыі Беларусі 25 сакавіка 1918 г., расказвае вядомы беларускі гісторык Вадзім Круталевіч. Ён адзначае, што тры дэкларацыі — «1-я Устаўная Грамата да народаў Беларусі» ад 21 лютага, «2-я Устаўная Грамата да народаў Беларусі» ад 9 сакавіка і «3-я Устаўная Грамата Рады Беларускай Народнай рэспублікі» ад 25 сакавіка 1918 года — нарматыўна вызначылі найважнейшыя палажэнні аб дзяржаўным і грамадскім ладзе Беларусі, уласнасці на зямлю і яе нетры, вярхоўным органе ўлады, правах і свабодах грамадзян. Далей ён піша: «Палажэнні грамат ў вядомай ступені «стыкуюцца» з нашай сучаснай канцэпцыяй прававой дзяржавы, што стымулюе да іх цікавасць грамадскасці. Спатрэбіліся дзесяткі гадоў, каб наша грамадства, адчуўшы на сабе прыгнёт таталітарызму, ацаніла дасягненні папярэдніх эпох». Працяг матэрыялу будзе змешчаны ў наступным нумары часопіса. Чытачы знойдуць працяг артыкула Л. Лыча «Беларусізацыя» і публіцыстычнай аповесці-хронікі ў дыялогах «Свечка на Дзяды» Э. Ялугіна. Пра лёс выдатнага музыканта Паўла Карузы, які амаль 20 гадоў правёў у турмах і высылцы ў часы сталіншчыны, расказвае Віктар Новік у сваім артыкуле «Лёс музыканта». Пад рубрыкай «Згукі Бацькаўшчыны» надрукаваны верш Віктара Шніпа «Балада 25 сакавіка». Не пакінуць чытача абыякавым, напоўняць яго душу светлымі ўспамінамі і творы мастачкі Таццяны Лапіцкай, змешчаныя ў гэтым нумары. Пад рубрыкай «Далёкае і блізкае» Міхась Белямук расказвае пра жыццё эмігрантаў у пасляваенныя гады, пра іх выезд з Нямеччыны ў ЗША. Нумар заканчваецца артыкулам Ірыны Кісялёвай «Чарнобыль: спроба аналізу сітуацыі», пачатак якога быў змешчаны ў папярэднім нумары.

## ЛЯКАРНЯ ЧАРАЎНІЦЫ ПОТАХІ

Усе, хто піша пра народную медыцыну, спасылаюцца звычайна на кніжку бацькі і сына М. А. і І. М. Насаляў «Лекавыя расліны і спосабы іх прымянення ў народзе» (Кіеў, 1960). Напісана яна вясковымі жыхарамі на аснове народнага вопыту і атрымала шырокую вядомасць. Змяшчаем некалькі ўрыўкаў з гэтай кнігі.

Агульныя парады. Збіраць расліны трэба так: калі выкарыстоўваецца ўся расліна, яе нарыхтоўваюць у пачатку цвіцення; у такі ж час збіраюцца і расліны, ад якіх бярэцца ўся наземная частка — трава. Лісце збіраецца, як правіла, перад цвіценнем, карані, карэнішча і клубні нарыхтоўваюцца восенню ці ранняй вясной. Насенне і плады — у перыяд, калі поўнасцю паспяваюць, за невялікім выключэннем. Нарэшце кару зрэзваюць восенню, калі спыняецца рух сокаў. Збіраць надземныя часткі раслін, асабліва кветак, трэба ў сухое надвор'е і каб не было расы.

*Каб не хварэлі ды ўвесь хлеб паелі (Сержпутоўскі)*

Сушыць расліны лепш на гарышчы, у хляве, толькі не на сонцы. Для захавання іх таксама мае вялікае значэнне месца, тара і ўпакоўка. Больш усяго трэба асцерагацца сырога памяшкання і ніколі не трымаць матэрыялы ў незакрытым выглядзе. Добрым складам можа быць памяшканне, якое не ацяпляецца.

У народзе лічаць, што ўздзеянне адной расліны на арганізм чалавека менш эфектыўнае, чым пры аб'яднанні некалькіх, узятых з адной і той жа групы. Таму часцей за ўсё ўжываюцца сумесі траў або зборы.

Найлепшай дозай для прыёму ўнутр лічыцца адна сталовая лыжка з коптурам дробна нарэзанай расліны ці сумесі на шклянку кіпетню або чатыры сталовыя лыжкі з коптурам на літр кіпетню.

Адвары рыхтуюцца, калі сумесі ўтрымліваюць кару, карані, клубні, насенне, ягады, драўніну і лісце талакнянкі, у астатніх выпадках робяць напары (карані рагулькі (жывакосту) і ягады шыпшыны адварваць нельга).

Як робіцца адвар? Чатыры сталовыя лыжкі сумесі, кожная з коптурам, насыпаюць у паўтаралітровую пасудзіну (лепш гліняную, а не металічную), заліваюць літрам сырой вады, размешваюць, накрываюць і пакідаюць на ноч пры пакаёвай тэмпературы. Раніцай ставяць на агонь і, калі закіпіць, трымаюць пад накрыўкай 5—7 мінут. Здымаюць посуд з агню, пакідаюць накрытым на паўгадзіны, затым працэджваюць і адціскаюць зелле. Адвар, калі астыне, падаграваюць і п'юць. Нашча гарачым — адну шклянку, астатняе за чатыры разы на дзень, кожны раз праз гадзіну пасля яды.

Настоі бываюць халоднага ці гарачага прыгатавання. Пры халодным спосабе дробна парэзаныя расліны заліваюць халоднай кіпячонай вадой і настойваюць у закрытым посудзе некалькі гадзін, затым працэджваюць і адціскаюць. Пры гарачым спосабе парэзаныя расліны заліваюць кіпетнем і ставяць на 15—20 мінут на агонь, але не даводзяць да кіпення. Іншы раз вытрымліваюць у гарачай печы (парацъ) некалькі гадзін. Затым працэджваюць, адціскаюць і п'юць. Кожны дзень рыхтуюць свежы адвар і напар.

## У фонд «Нашага слова» за апошні час ахвяраванні зрабілі:

Зварыка І. М. (Дзяржаўны музей БССР, г. Мінск)
Доўбік А. С. (пас. Уша Карэліцкага раёна)
Сям'я Брушкевічаў (спадар і спадарыня, г. Чыкага, ЗША)
Сям'я Кучураў (спадар і спадарыня, г. Чыкага, ЗША)
Сям'я Махначоў (спадар і спадарыня, г. Ля Джэндж Парк, ЗША)
Айцец Аляксандр Надсан (Лондан, Вялікабрытанія)
Спадар А. Сільвановіч (г. Саўт-Рывер, ЗША)
Спадар Анатоль Санковіч (г. Эвенстон, ЗША)
Спадар Генрык Сянкевіч (г. Чыкага, ЗША)
Эрнэст Ялугін і Анатоль Сілянкоў (супрацоўнікі рэдакцыі).

ЗАЎВАГА: Сума ахвяравання ўказваецца, калі таго пажадае ахвяравальнік.

## Ахвяравалі на Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Макарчук А. (Мінск) — 40 рублёў
Верацiла М. І. (Ваўкавыск) — 100 рублёў
Пунцава А. Е. (Мінск) — 20 рублёў
Ліхтанка В. М. (Барысаў) — 10 рублёў
Барчук А. Л. (Мінск) — 10 рублёў 50 капеек
Куніцкі А. М. (Барысаў) — 10 рублёў
Каваліва М. У. (Мінск) — 100 рублёў
Клімуць Я. І. (Магілёў) — 64 рублі
Дуброўскі П. (Мінск) — 20 рублёў
Супрун В. Г. (Мінск) — 15 рублёў
Свірка-Кавалеўскі Ю. (Мінск) — 5 рублёў
Ганчар А. А. (Мінск) — 7 рублёў 76 капеек
Рыжно В. Д. (Гродзенская вобласць) — 15 рублёў
Аленчык П. І. (Гомель) — 40 рублёў
Свістуновіч А. (Мінск) — 50 рублёў
Бібік В. (Мінск) — 5 рублёў
Тулейка В. У. (Стаўбцоўскі раён) — 25 рублёў
Бутэвіч А. І. (Мінск) — 50 рублёў
Аляксееў У. В. (Мінск) — 100 рублёў
Настаўнікі Хонаўскай СШ (Магілёўская вобласць) — 105 рублёў
СШ № 2 (Слонім) — 51 рубель.

Наш цэнтральны рахунак 700510. Гардырэкцыя Мінскбізнесбанка.
Код банка: 400019.
Валютны рахунак 000700704 у Знешгандальбанку СССР.

*І смех і грэх*

## Дагадзіў

(з народнага)

Ідуць лесам пан з лакеем; вось лакей, ідучы спераду, пацягнуў за сабою галіну, што нагнулася над сцежкай, ды тады і пусціў, а яна выпрасталася ды — лясь пана па носе!

— А каб табе добра не было, як моцна б'ецца,— крычыць той.

— Э, падзякуйце, пане, што я яшчэ прытрымаў паскудную галіну, а то бяда была б! — адказвае лакей.

## *Гутарка пана з селянінам*

(з народнага)

— З кёнд, ты, мужык?
— З хаты, мосьпане.
— Чый жа ты?
— Жончын.
— Якога ты пана?
— Гэтакага, як ты, ваша... мужыкоў у... паліць, аж дым курыцца.
— Пад кім ты, мужык, жывеш?
— Пад богам, мосьпане.
— Але як твой пан завецца?
— Як быў нежанаты, так звалі панічом, а як ажаніўся,— так ужо ягомасць.
— Каго ты, мужык, слухаеш?
— Дуды, скрыпкі, як зайграюць.
— А каго ты баішся?
— У лесе ваўкоў, а ў сяле сабак.
— Гдзе ж твая хата?
— Проціў ліха на ўзгорку, гдзе ўбогі згубіў торбу парожню.
А хто ў вас за ўрадніка? Пан аканом!? А хто ж за намесніка?
— Той паніч, што пахаджаець з вялікім бізуном.
— А калі ў вас, мужык, вялікдзень?
— У пятроўку, калі хлеба нямаш.
— Што ты вязеш?
— Што ў воз улажыў, то я вязу.
— Што ты будзеш прадаваць?
— Што людзі будуць таргаваць, то я буду прадаваць.
— Чы барана?
— Не, не варона.
— Чы ты, мужык, глупы, чы глухі?
— Што?
— Чый жа гэта ў цябе конь?
— Чы ты, ваша, не відзіш, гэта кабылін сын.
— Не ўчарайшы ты, мужык?
— Не ўчарайшы, ужо мне сорак год мінула, як радзіўся.
— А чы ўмееш ты пацеры?
— Чорт — бо за іх стаяў, каб умеў.
— Чы бываеш ты, мужык, у касцёле?
— Быў раз, як хрысціўся — кумы ўняслі, другі раз, як жаніўся — сваты ўвялі, а трэці раз сабакі як апанавалі, так я ледва ў касцёл умкнуў.
— Што ж там людзі робюць?
— Касляюць.
— Што ж ксёндз робіць у касцёле?
— Ат, з хлопцам усё спіраецца: траксім, непараксім, піраксім, непараксім.
— Чы знаеш ты, мужык, катэхізм?
— Чаму я катоў не знаю, у нас у сяле каты ўзімку па ўглам лазяць.
— Чы знаеш ты бога?
— Знаю, да бог не такі, як ты, дурак.
— За што ты мяне лаеш?
— Ты, ваша, выбачай, бо мая такая гутарка.

*Жарты, анекдоты, гумарэскі, Мінск. «Навука і тэхніка», 1984.*

Можна выпісаць у любым аддзяленні «Саюздруку». Усяго за 20 капеек 4 нумары газеты ў месяц:

## *«Наша слова»*

— Гэта інфармацыя аб культурным жыцці беларусаў у рэспубліцы і за мяжой.
— Арыгінальныя інтэрв'ю з неардынарнымі асобамі.
— Гісторыя. Радавод.
— Пытанні мовы.
— Літаратурныя навіны і многае іншае ў канцэнтраванай форме.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Рэдактар Эрнэст Ялугін
Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека (нам. рэдактара), Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шаваркін.
Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 4.834 паасобнікі. Заказ 2454. Індэкс 74975.